I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Снежань-2 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

# Беларуская мова — мова лідэраў

## складзены новы рэйтынг беларускамоўнасьці ў спорце

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ




стар. 7

**Гомельская міліцыя шукае ахвяраў «варажбіткі»**

стар. 1

**У Гомлі шукаюць садыста, які забівае сабакаў**

стар. 2

**Гомельская міліцыя аказалася бяссільнай**

стар. 5

# Гомель: працоўны прад'явіў наймальніку пазоў на 144 млн. BLR

***Апаратчык абпалу ААТ "Гомельскі хімічны завод" Аляксандр Клімаў судзіцца з былым прадпрыемствам, якому аддаў 33 гады бездакорнай працы. Пазоў аб кампенсацыі матэрыяльнай і маральнай шкоды ў памеры 144 млн. руб. заяўлены ў суд Савецкага раёна Гомеля пасля таго, як работнік атрымаў вытворчую інваліднасць, а кіраўніцтва завода паспяшалася "выкінуць" пацярпелага на вуліцу.***

У 2011 годзе ў працоўны час Аляксандр падняўся на чыгуначную эстакаду, дзе разаграваліся цыстэрны з вадкай серай, адчуў пах серавадароду, удушша, пасля чаго страціў прытомнасць і ўпаў з вышыні. У выніку ён атрымаў закрытыя пераломы рэбраў, разрыў улоннага сучлянення, траўматычны сімфізіт, пасля быў прызнаны інвалідам 3-й групы. Ад траўмаванага працоўнага завадчане паспяшаліся пазбавіцца "у сувязі са станам здароўя, якое перашкаджае працягу працоўных адносін".

"Працадаўца на працягу 4-х гадоў адмаўляўся прызнаць пашкоджанне майго здароўя вытворчым выпадкам, у выніку чаго мне давялося праз шматлікія суды даказваць і цяжар атрыманых траўмаў, і няшчасны выпадак вытворчым. Зараз "Белдзяржстрах" выплаціў мне каля 66 млн. руб. за апошнія тры гады, прызначыў каля 1 млн. штомесячных выплат", - распавёў Аляксандр Клімаў.

Пацярпелы працоўны заяўляе, што ў выніку шматгадовых цяжбаў з родным прадпрыемствам ён страціў яшчэ каля 45 млн. рублёў страхавых выплат, якія як ён лічыць, абавязаны кампенсаваць завод. Маральную шкоду ў сувязі з пашкоджаннем здароўя і наступнай бяздзейнасці працадаўцы ён ацаніў у 99 млн. Усяго судовы пазоў заяўлены на 144 млн. BLR.

Інтарэсы працоўнага прадстаўляе прававы інспектар незалежнага прафсаюзу РЭП па Гомельскай вобласці Леанід Судаленка.

*Гомельская Вясна*

## Жанчына з Веткаўскага раёна пералічыла махлярцы ў Камерун $7000 «за дастаўку папугаяў»

***Медработніца фельчарска-акушэрскага пункта ў вёсцы Веткаўскага раёна аддала 7000 даляраў за віртуальных папугаяў.***

Як распавёў супрацоўнік прэс-службы УУС Гомельскага аблвыканкама Ігар Грышкевіч, на сайце Doska.by 25-гадовую дзяўчыну зацікавіла аб'ява, у якім абяцалася аддаць у добрыя рукі папугаяў жако, і яна звязалася па электроннай пошце з «уладальніцай». Тая адгукнулася маментальна, перапіска вялася 11 дзён. Жанчына пацвердзіла гатоўнасць аддаць птушак бясплатна, калі беларуска аплаціць транспарціроўку жако з Камеруна ў Беларусь.

Жанчыны дамовіліся, што беларуска перавядзе 500 даляраў за трох папугаяў, і іх ёй вышлюць самалётам. Медработніца не сказала пра здзелку мужу і ўзяла грошы з агульных валютных запасаў. Пасля «ўладальніца» выдурыла ў жанчыны яшчэ больш за 6 тысяч даляраў нібыта за арэнду клетак, страхоўку, прышчэпкі, афармленне дакументаў. У цэлым за некалькі дзён медработнік перавяла ў Камерун 6690 даляраў і заплаціла камісію банку ў 337 даляраў. І толькі тады западозрыла «ўладальніцу» у махлярстве і заявіла пра гэта ў міліцыю.

«Праваахоўнікі правялі праверку і выявілі, што камп'ютары, з якіх вялася перапіска, знаходзяцца ў Камеруне і ЗША. Веткаўскім РАСК па факце махлярства ў буйным памеры распачатая крымінальная справа. Пытанне аб тым, ці можна будзе вярнуць сродкі, пакуль застаецца адкрытым. Неабходныя запыты зроблены, а далей можна будзе судзіць толькі пасля атрымання афіцыйных адказаў», — дадаў Грышкевіч.

*БелаПАН*

## Гомельская міліцыя шукае ахвяраў «варажбіткі»

***У Гомелі затрымалі «варажбітку», якая падманам завалодала ювелірнымі ўпрыгожваннямі і грашыма даверлівай жанчыны.***

Крымінальная справа датычыцца пакуль толькі аднаго крымінальнага эпізоду. Але ў Следчым камітэце мяркуюць, што маглі быць і іншыя падобныя выпадкі.

Візіт да адной з гамяльчанак махлярка ўпершыню нанесла 4 снежня, нібыта просячы міласціну. Госця прапанавала гаспадыні кватэры паваражыць і «зняць сурокі». Для гэтага ёй «часова» спатрэбіліся тры залатыя пярсцёнкі, камплект пасцельнай бялізны і пара махровых ручнікоў. Неўзабаве варажбітка наведалася зноў, каб паўтарыць працэдуру. На гэты раз яна сышла з залатым крыжыкам і ланцужком гаспадыні. Акрамя таго, махлярка пераканала сваю ахвяру купіць за 500 тысяч рублёў «загавораны» кавалак расліны.

Калі «кліентка» нарэшце зразумела, што яе падманулі, звярнулася ў міліцыю.

*nn.by*

# За дэманстрацыю палавых органаў на прыпынку гамяльчук атрымаў 15 месяцаў калоніі

***Да 15 месяцаў калоніі прыгавораны рашэннем суда жыхар Гомеля, які з хуліганскіх пабуджэнняў дэманстраваў палавыя органы і ягадзіцы на прыпынку грамадскага транспарту.***

Мужчыну прызналі вінаватым у злосным хуліганстве: «наўмысных дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак і выказваюць яўную непавагу да грамадства, што вызначаюцца па сваім змесце выключным цынізмам».

Як паведамілі ў пракуратуры Гомеля, інцыдэнт здарыўся ў чэрвені 2015 года на прыпынку грамадскага транспарту «Інстытут «Гомельпраект». Абвінавачваны, «дзейнічаючы з выключным цынізмам, бессаромна, дэманструючы пагардлівае стаўленне да агульнапрынятых маральных норм, усведамляючы, што за яго дзеяннямі назіраюць іншыя асобы, адкрыў і дэманстраваў свае палавыя органы ў непасрэднай блізкасці і на віду ў цыганак, зневажаючы апошніх нецэнзурнай лаянкай», гаворыцца ў матэрыялах справы.



На судзе пацярпелыя і сведкі — прадаўцы гандлёвых павільёнаў, далі паказанні, што грамадзянін прасіў цыганак пагадаць, а калі яму адмовілі — прадэманстраваў ім палавыя органы і зневажаў нецэнзурнай лаянкай. Пачалася сварка. Невядомы мужчына ўдарыў хулігана сумкай па галаве, а затым прахожыя выклікалі міліцыю. Пачуўшы пра міліцыю, абвінавачваны вырашыў рэціравацца, аднак зняў штаны і прадэманстраваў прысутным ягадзіцы. Калі яго затрымала міліцыя, ён працягваў нецэнзурна лаяцца.

Сам абвінавачваны даваў паказанні, што цыганкі прапаноўвалі яму пагадаць, і, «жадаючы пазбавіцца ад надакучлівага прыставання з боку жанчын, абвінавачваны прыспусціў штаны і прадэманстраваў ім свой палавы орган, а паколькі жанчыны не суніміліся, прыспусціў штаны ззаду, прадэманстраваўшы жанчынам ягадзіцы».

Тым не менш суд узяў пад увагу паказанні пацярпелых, таму што яны былі ідэнтычныя паказанням сведак. Гандляркі з павільёнаў растлумачылі, што бачылі, як мужчына бегаў за цыганкамі, хапаў іх за рукі, зневажаў, здымаў штаны.

*БелаПАН*

# У Гомлі шукаюць садыста, які забівае сабакаў

***Мужчына страляў па сабаках, у якіх былі гаспадары.***

Выпадак адбыўся ў вёсцы Цыкуны, што ў Гомельскім раёне. Адзін сабака загінуў, другі знаходзіцца ў цяжкім стане. Пра гэта напісала на сваім профілі «Вконтакте» Таццяна Сасноўская, выклаўшы жахлівыя фотаздымкі.

Сабаку, які выжыў, завезлі ў ветэрынарную клініку з падазрэннем на агнястрэльнае раненне дробам па ўсім тулаве. Паводле аўтаркі запісу, вінаватым можа быць гаспадар серабрыстага аўта з нумарамі 35-46 або 46-35 – так запомніла іншая жанчына, якая апынулася на месцы здарэння.

Нядаўна ў Гомлі ды ваколіцах адбыліся два гучныя выпадкі нападу сабакаў на людзей, адзін з якіх скончыўся смерцю. Ахвяры, як мяркуецца, ужывалі алкаголь. Здарэнні абвастрылі дыскусію аб бадзяжных жывёлінах.

*паводле gomel.today*

# У Петрыкаўскім раёне знайшлі шкілет мужчыны.

***Рэшткі мужчыны знайшлі яшчэ ў красавіку, але высветліць асобу загінулага так і не ўдалося.***

Шкілет знайшлі ў 300 метрах ад ракі Пціч у зарасніках хмызняка, у 1,5 кіламетрах ад вёскі Пціч Петрыкаўскага раёна. Згодна з заключэннем экспертызы, парэшткі праляжалі ў дадзеным месцы каля года. Прыкметы: рост 180-185 см, валасы маюць рудае адценне. На трупе мелася адзенне: камуфляжная рыбацкая куртка і штаны зялёнага колеру, кашуля ў сіне-белую палоску (цяльняшка), кальсоны светлага колеру, на нагах чаравікі бэжавага колеру на шнурках, 43 памеру, шкарпэткі чорнага колеру, трусы чорнага колеру.

Пры сабе меліся рэчы: заплечнік зялёнага колеру, 2 паляўнічыя нажы, канцылярскі нож, ліхтарык з электрашокерам у корпусе чорнага колеру.

*nn.by*

# Беларуская мова — мова лідэраў: складзены новы рэйтынг беларускамоўнасьці ў спорце

***У новым рэйтынгу 120 беларускіх камандаў розных відаў спорту, зь іх толькі 32 карыстаюцца беларускай мовай. Пераможцы — «Цмокі».***

Ініцыятар кампаніі «Справаводзтва па-беларуску» Ігар Случак склаў рэйтынг «Самы беларускамоўны спартовы клюб Беларусі-2015» і апублікаваў поўны сьпіс у сваім блогу на Tribuna.com.

У рэйтынгу ёсьць каманды па розных відах спорту: футбол, баскетбол, хакей, міні-футбол. Яны ацэньваліся па тым, як выкарыстоўваюць беларускую мову на трыбунах, у тым ліку, ці маюць надпісы па-беларуску на форме, беларускамоўнае табло альбо беларускамоўнага камэнтатара, а таксама па выкарыстаньні мовы ў мэдыях, у тым ліку ў сацсетках.

Топ-10 беларускамоўных клюбаў атрымаўся такі:

1. БК «Цмокі» (Менск)
2. ФК «Тарпэда» (Менск)
3. ФК «Дынама» (Менск)
4. ФК «Гомель»
5. ФК «Белшына» (Бабруйск)
6. ФК «Тарпэда-БелАЗ» (Жодзіна)
7. ФК «Нёман» (Горадня)
8. ФК «Крумкачы» (Менск)
9. МФК «Сталіца» (Менск)
10. ФК «Славія-Мазыр»

Аўтар рэйтынгу Ігар Случак распавёў Свабодзе, што беларускамоўных клюбаў паболела за год, хаця іх колькасьць застаецца невялікай:

«Я вельмі ўдзячны клюбам, што выкарыстоўваюць беларускую мову, і спадзяюся, што з кожным годам на беларускіх стадыёнах і арэнах яе будзе ўсё болей. У сёлетнім рэйтынгу было 120 камандаў — на 20 болей, чым у 2014 годзе. Нейкія балы набралі 32 каманды, у той час як у 2014-м — 24. Таму нельга казаць, што колькасьць




клюбаў, што выкарыстоўваюць беларускую мову, значна вырасла за гэты год.

У той жа час трэба адзначыць, што першая дзясятка рэйтынгу-2014 і рэйтынгу-2015 амаль цалкам супадае — у гэтым годзе яе пакінула пінская «Хваля» і хакейнае «Дынама-Менск», а ім на зьмену прыйшоў гарадзенскі футбольны клюб «Нёман» і мініфутбольны клюб «Сталіца». Таксама заўважна тое, што тыя клюбы, што ў мінулым годзе шырока выкарыстоўвалі беларускую мову, у гэтым годзе сталі яе выкарыстоўваць яшчэ болей, таму большай стала і канкурэнцыя ў першай дзясятцы рэйтынгу.

Можна ўмоўна вызначыць тры групы клюбаў, якія шмат выкарыстоўваюць беларускую мову. Першая — гэта «Цмокі» і менскае «Тарпэда», дзе беларуская мова ёсьць асноўнай. Другая — «Дынама-Менск», «Гомель», «Белшына», «Тарпэда-БелАЗ», «Нёман» і «Крумкачы» — гэтыя клюбы надаюць значную ўвагу беларускай мове. Трэцяя — гэта клубы, што пакуль толькі сталі на шлях беларусізацыі. Ёсьць яшчэ адна група — група ганьбы, што зусім не выкарыстоўвае беларускай мовы. На жаль, іх большасьць.

Наогул, значны прарыў у выкарыстаньні беларускай мовы адбыўся ў 2015 годзе менавіта ў беларускім футболе. У баскетболе гонарам і годнасьцю зьяўляюцца «Цмокі», іншыя ж клюбы беларускую не выкарыстоўваюць. У хакеі разьвіцьця беларускай мовы няма, а рэгляմэнтам КХЛ і беларускага чэмпіянату наогул забаронена пісаць прозьвішчы гульцоў па-беларуску.

Трэба заўважыць, што беларуская мова — мова лідэраў. Першае месца рэйтынгу-2015, «Цмокі», годна прадстаўляюць Беларусь у міжнародных лігах, менскае «Тарпэда», другое месца, выйграла сёлета Другую лігу і будзе ў наступным годзе гуляць у Першай, менскае футбольнае «Дынама», трэцяе месца, заняла другое месца ў Вышэйшай лізе і гуляла ў групавой стадыі Лігі Эўропы, а «Крумкачы», восьмае месца, выйшлі ў Вышэйшую лігу зь Першай".

*svaboda.org*

# «Справаводства па-беларуску» заклікае дэпутатаў змяніць закон

***Беларускіх дэпутатаў заклікаюць унесці змены ў закон «Аб абароне правоў спажыўцоў», якія б абвязалі беларускіх вытворцаў рабіць надпісы на таварах абавязкова на дзвюх дзяржаўных мовах. Падобную прапанову даслаў усім дэпутатам каардынатар грамадзянскай кампан і і “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак.***

І ўжо больш дзесяці дэпутатаў выказаліся за гэтую прапанову.

— Адзін дэпутат якраз такі і паведаміў, што паводле ягонай інфармацыі Нацыянальны цэнтр прававых даследванняў распрацоўвае новую рэдакцыю закона «Аб абароне правоў спажыўцоў» і што ён накіраваў мае прапановы ў Нацыянальны цэнтр прававых даследаванняў, і я спадзяюся, што Нацыянальны цэнтр падтрымае іх таксама.




Як кажа Ігар Случак, тады б не ўзнікала такая сітуацыя як з лідскім півам, якое прынцыпова не выкарыстоўвае беларускую мову.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*

# Гомельская міліцыя аказалася бяссільнай

***Каардынатар грамадзянскай кампаніі “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак атрымаў ліст са Следчага камітэта, у якім падведамляецце, што ані саміх рабаўнікоў, ані скрадзеныя рэчы міліцыя не знайшла. У 2012 годзе на Ігара Случака ў Гомелі напалі невядомыя, збілі і абрабавалі.***

Была пачата крымінальная справа. Але ніякіх вынікаў яна не мела. Затое, як згадвае Ігар Случак, калі у 2011 годзе ён хацеў правесці прэс-канферэнцыю ў Гомелі, прысвечаную стану беларускай мовы ў краіне, за дзень да прэс-канферэнцыі нейкі бомж паскардзіўся на Случака ў міліцыю і за ім прыехаў з цэлы аўтобус АМОНу.

– Калі я хацеў правесці прэс-канферэнцыю па пытаннях беларускай мовы і яе выкарыстання, то мяне за дзень да гэтага мерапрыемства затрымаў нарад АМОНу за тое, што нейкі грамадзянін паведаміў, што я яго быццам штурхнуў і аблаяў. А калі сапраўдныя праблемы ў людзей, то няма на каго разлічваць.

“Нягледзячы на прынятыя меры ў ходзе папярэдняга расследвання ўстанавіць асобы, якія ўчынілі гэтае злачынства, рэальных сведкаў, а таксама месцазнаходжанне скрадзеных рэчаў не ўяўляецца магчымым,” – паведамляецца ў лісце са Следчага камітэта.

*Васіль Кроква, Беларускае Радыё Рацыя*



# У Рагачоўскім раёне мужчына выратаваў другакласніка, які праваліўся пад лёд

***У вёсцы Ціхінічы Рагачоўскага раёна мужчына выратаваў другакласніка, які праваліўся пад лёд.***

Як паведамілі ў Гомельскай абласной арганізацыі ратавальнікаў на вадзе, мясцовы жыхар Аляксандр Бялоўскі 16 снежня праязджаў на сваім аўтамабілі каля сажалкі, пакрытую першым лёдам, і заўважыў там дзяцей. Ён спыніўся, каб папярэдзіць іх пра небяспеку хаджэння па тонкім лёдзе, гэта і выратавала жыццё дзіцяці. Калі мужчына ішоў да дзяцей, ён заўважыў, што адзін хлопчык ужо выбег на лёд і пачаў тануць. Дзіця схапілася за край крыгі. Мужчына кінуўся на дапамогу і сам праваліўся, аднак змог дабрацца да хлопчыка і выцягнуць яго на бераг.

Дзіця магло патануць, бо глыбіня вадаёма каля берага дасягае двух метраў. Бялоўскі адвёз дзіцяці дадому і перадаў маці.

Мужчына працуе кіроўцам на Рагачоўскім малочна-кансервавым камбінаце. Ратавальнікі ўзнагародзяць яго граматай і каштоўным падарункам за смелы ўчынак.

*БелаПАН*

# Жыхар Лельчыц пакрыўдзіўся на сабутэльнікаў і падпаліў на хаду фургон — трое згарэлі зажыва

***У Лельчыцах на выязным пасяджэнні Гомельскага абласнога суда 17 снежня прайшлі дэбаты па рэзананснай крымінальнай справе. Жыхар Лельчыцкага раёна абвінавачваецца ў забойстве дзвюх і больш асоб агульнанебяспечным спосабам і з асаблівай жорсткасцю.***

Як паведаміла прэс-сакратар Гомельскага абласнога суда Наталля Пугачова, дзяржаўнае абвінавачванне запатрабавала для абвінавачванага 23 гады пазбаўлення волі.

Нагадаем, у красавіку 2015 года 36-гадовы жыхар раёна падпаліў фургон аўтамабіля, у якім знаходзіліся людзі. Вяртаючыся з працы ў службовым аўтамабілі па дарозе Тураў — Лельчыцы — Славечна, пасля сумеснага распівання спіртных напояў з калегамі, на глебе раптоўна ўзніклых асабістых непрыязных адносінаў абвінавачваны ўзяў каністру з бензінам і выліў яго на падлогу ў цэнтральнай частцы фургона, падпаліў выліты бензін і выскачыў на хаду з машыны, якая загарэлася. У аўтамабілі знаходзіліся восем чалавек.

Вадзіцель, заўважыўшы ўзгаранне, рэзка знізіў хуткасць і спыніў аўтамабіль, пяці пацярпелым удалося самастойна пакінуць палаючы фургон. Трое мужчын ад нанесеных цялесных пашкоджанняў памерлі ў бальніцы. Агнём знішчаны службовы аўтамабіль і асабістыя рэчы пацярпелых.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# Грамадзянка РФ схавалася ў грузавіку, каб перасекчы мяжу з Беларуссю

***Гомельскія памежнікі 22 снежня на працягу гадзіны прадухілілі адразу дзве спробы парушэння мяжы з Украінай.***

Як паведаміў прэс-сакратар Гомельскай пагранічнай групы Дзмітрый Уклейка, каля шасці гадзін у пункце пропуску „Новая Гута” пагранічны нарад затрымаў 32-гадовую грамадзянку РФ, якая схавалася на спальным месцы грузавога аўтамабіля „ДАФ”, што накіроўваўся з Украіны ў Беларусь. Падчас разбору ўстаноўлена, што вадзіцель фуры, 40-гадовы грамадзянін Украіны, з жанчынай, якую знайшлі пагранічнікі, нібыта жыве ў грамадзянскім шлюбе. Прычыны, якія прымусілі вадзіцеля схаваць яе для незаконнага перасячэння мяжы, удакладняюцца. У дачыненні да ўказаных грамадзян распачаты адміністрацыйны працэс. На час правядзення праверачных мерапрыемстваў парушальнікі змешчаныя ў ІЧУ. Другі інцыдэнт здарыўся гадзінай пазней. Пры праверцы кантрольна-следавой паласы пагранічнікі выявілі дарожку слядоў і месца пераадолення парушальнікам загароды. Службовы сабака ўзяў след і неўзабаве затрымаў зламысніка. Як растлумачыў 31-гадовы затрыманы, ён з’яўляецца грамадзянінам Украіны і жыве ў Чарнігаўскай вобласці, а ехаў да пастаяннага месца жыхарства. Абысці пункт пропуску вырашыў у сувязі з адсутнасцю ў яго дакументаў на права перасячэння мяжы. Украінец змешчаны ў ІЧУ.

*belapan.by*



# Узброены разбой у Петрыкаве: рабаўнік выкраў з крамы ювелірныя вырабы на буйную суму

***23 снежня ў ювелірны магазін у Петрыкаве уварваліся людзі ў масцы і, пагражаючы пісталетам, вынеслі шмат упрыгожванняў, паведамілі Tut.by чытачы. Ва УСК па Гомельскай вобласці пацвердзілі, што факт разбою сапраўды быў, але злачынец дзейнічаў у адзіночку і быў без маскі.***

— 23 снежня невядомы, пагражаючы прадметам, падобным на пісталет, здзейсніў крадзеж залатых ювелірных вырабаў у асабліва буйным памеры, - распавяла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава. — Дакладная сума выкрадзенага і колькасць вырабаў будуць вядомыя пасля інвентарызацыі. Злачынец з выкрадзеным збег з месца здарэння.




На месца здарэння выязджалі следча-аператыўныя групы Петрыкаўскага РАУС і УУС Гомельскага аблвыканкама. Падрабязнасці здарэння ў інтарэсах следства пакуль не выдаюцца.

Вядзецца вышук злачынцы. Заведзена крымінальная справа па ч. 3 артыкула 207 КК па факце разбою, здзейсненага ў асабліва буйным памеры.

Нагадаем, 10 студзеня 2013 г. у Петрыкаве таксама былі спустошаныя вітрыны ювелірнага крамы. Злодзей пракраўся ў краму падчас абедзеннага перапынку, сарваўшы навясныя замкі дзверы і рашоткі складскога памяшкання, і выкраў залатыя ювелірныя вырабы на суму каля 200 мільёнаў рублёў.

*news.tut.by*

# У Жлобіне жанчына пераблытала педалі і збіла маці з дзіцём

***Кепска скончылася паездка 30-гадовай жанчыны-кіроўцы па Жлобіне.***

На аўтамабілі «Мазда» яна выязджала з двара жылога дома, пры раз'ездзе з сустрэчным транспартам спынілася, а узнаўляючы рух, па яе словах, пераблытала педалі тормазу і газу. Гэта стала прычынай таго, што аўтамабіль рэзка выскачыў на ходнікі і збіў маці з трохгадовым дзіцем. Пасля чаго ён урэзаўся ў балкон шматпавярховага жылога дома.

Пацярпелыя дастаўлены ў Жлобінскую цэнтральную раённую бальніцу. Па словах начальніка аддзялення агітацыі і прапаганды УГАІ УУС Гомельскага аблвыканкама Вольгі Развяковай, у цяперашні час яны знаходзяцца ў траўматалагічным аддзяленні, хлопчык з страсеннем галаўнога мозгу, у яго мамы траўма галавы і рукі.

*БелТА*



# У Гомелі смеццявоз насмерць збіў пенсіянерку

***У Гомелі смеццявоз у прыватным сектары насмерць збіў пенсіянерку, паведамілі ў прэс-службе УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама.***

ДТЗ адбылося 28 лістапада ў 9.15. Кіроўца смеццявоза ехаў па праезнай частцы вуліцы прыватнага сектара Гомеля. Рухаючыся заднім ходам, учыніў наезд на 80-гадовую жанчыну-пешахода, якая знаходзілася ззаду транспартнага сродку. Яе кіроўца не заўважыў. У выніку ДТЗ пенсіянерка ад цялесных пашкоджанняў памерла на месцы.

*БелТА*

# Больш за 90 дадатковых цягнікоў пусцяць на Каляды і Новы год

***Больш за 90 дадатковых цягнікоў будуць курсаваць па Беларускай чыгунцы ў дні калядных і навагодніх святаў.***

Прызначаныя больш за 80 дадатковых цягнікоў міжрэгіянальных ліній. У першую чаргу яны будуць курсаваць па найбольш запатрабаваных напрамках: Мінск — Брэст — Мінск і Мінск — Гомель — Мінск. У святочны перыяд дадатковыя цягнікі таксама звяжуць сталіцу з Віцебскам, Гродна, Пінскам і Полацкам.

Паколькі максімальны пасажырапаток чакаецца 24, 25, 30 і 31 снежня, большая частка дадатковых цягнікоў міжрэгіянальных ліній будуць курсаваць менавіта ў гэтыя дні.

У саставы цягнікоў міжрэгіянальных ліній, якія ўжо курсуюць па гэтых маршрутах, будуць уключаныя дадатковыя вагоны.

Акрамя таго, вядзецца праца па прызначэнні дадатковых цягнікоў у міжнародных зносінах. Прызначаныя цягнікі па маршруце Брэст — Масква — Брэст адпраўленнем з Брэста 28 і 31 снежня, а таксама 1 і 2 студзеня. У зваротным напрамку яны будуць адпраўляцца з Масквы 29 снежня, 1, 2 і 3 студзеня. Плануецца прызначыць дадатковыя цягнікі па маршрутах Мінск — Санкт-Пецярбург — Мінск і Мінск — Масква — Мінск.

*rw.by*



## ФакТЫ:

***18 снежня 1882:***

У Беларусі былі ўсталяваныя першыя тэлефонныя лініі. Яны злучылі гомельскі маёнтак князя Паскевіча-Эрыванскага з яго замкам, фабрыкамі і фальваркамі.

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Снежань-2 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA